# ШТО ЛЕПШАЕ..?

Матэрыяльны бок нашага жыцця залежыць ў асноўным ад нас саміх. Кожны добры бацька і маці не толькі плануе, але і стараецца, каб сваім дзецям забяспечыць будучыню, каб яны не былі халодныя і галодныя. У нашай вёсцы гэта ператвараецца аднак у вялікую праблему, над якой трэба падумаць. І то неадкладна.

Усё ўзрастаючы лік насельніцтва патрабуе адначасова павялічвання колькасці сродкаў харчавання і прадукцыі будаўнічых матэрыялаў на памяшканні. Толькі прымяненне новай агратэхнікі ў сельскай гаспадарцы стварае магчымасць павялічваць прадукцыйнасць і даход нашай працы на раллі, павялічваць колькасць сродкаў харчавання. Вядома таксама, што механізацыя сельскай гаспадаркі робіць працу селяніна лягчэйшай і прыемнейшай. Адказаць жа на пытанне, ці магчыма прымяняць і ўводзіць адно і другое ў цяперашнюю нашу гаспадарку, няцяжка. Часткова гэта магчымае. Але ў галіне распаўсюджвання новай агратэхнікі патрэбны не толькі спецыялісты, але і ўмовы для іх працы. Практычна з'яўляецца немагчымым на раздробленых гаспадарках працаваць па-новаму. Не інакш справа выглядае і з механізацыяй. Тут неабходна гаспадарыць супольна.

Гэта адна з прычын, якая дыктуе патрэбу арганізацыі супольнай гаспадаркі. Ёсць яшчэ таксама і другая.

Паглядзіце, чытачы, што дзеецца ў нашых вёсках. Маю на думцы вялічыню гаспадарак. Не абавязкова прыводзіць канкрэтныя прыклады з канкрэтных вёсак, бо вы іх самі знойдзеце ў сябе дома, у сваіх родных вёсках.

Гаспадаркі раздрабляюцца што раз больш. Там, дзе гаспадарыў дзед на дванаццаці гектарах, унукі гаспадараць на двух, а іх дзецям няма чым ужо дзяліцца. Не буду тут гаварыць аб неабходнасці аграніччэння нараджэння дзяцей, бо не хачу забягаць думкай і разважаннямі ў далёкую будучыню. Хопіць заглянуць на 10—20 год уперад. Што зробіць бацька, які гаспадарыць на 2 гектарах і мае 5 сыноў? Яны ж не вінаваты, што бацькі ім далі жыццё. Трэба ведаць, што пры найбольшых намаганнях нашы ўлады не змогуць усім даць добрую працу ў прамысловасці, бо горад таксама мае вялікія цяжкасці з забеспячэннем кватэрамі і сродкамі харчавання. Таму я і назваў гэта вялікай праблемай нашай вёскі.

*

— Я не мог больш дзяліць сваёй 3-гектаравай гаспадаркі, — гаворыць Аляксандр Фаляновіч, старшыня новаарганізаванай прадукцыйнай спулдзельні ў Вялікіх Тынявічах. — Ёсць таксама людзі, якія не маюць дзяцей. У іх няма каму рабіць на гаспадарцы. На супольнай гаспадарцы будзе ў гэтым нейкая раўнавага.

(Працяг на стар. 5)


Сена 60 gr Цана 60 гр.

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (194) БЕЛАСТОК 15 ЛІСТАПАДА 1959 ГОДА ГОД IV

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЧАЛАВЕКА

## 1. ХАТА

Як дзіця, Генрых Возьняк не адрозніваўся нічым ад іншых дзяцей. Быў гонарам бацькоў, найразумнейшым і найпрыгажэйшым хлапчуком. Так, як кожнае дзіця ў бацькоў.

Жылі ў Гайнаўцы недалёка ад чыгункі, у невялікай драўлянай хатцы.

Ды і бацькі нічым не розніліся ад сваіх суседзяў, дробнамястэчковай беднаты. У будні працавалі. Бацька быў вартаўніком на чыгунцы, маці пры хаце. Святам хадзілі ў касцёл. Пасля ішлі да сваякоў, або знаёмых. Часамі іх наведвалі сваякі ці сябры па працы. Тады на стале з'яўлялася пляшка гарэлкі. Як жа без яе прыняць гасцей?

— Ну выпі, ты ж уж мужчына, — падсоўвае павесялеўшы ад гарэлкі бацька кілішак сямігадоваму хлапчаняці.

З таго, што хлопчык чуў пра гарэлку ад дарослых, ён зразумеў, што гэта мае быць нешта вельмі смачнае. Праўда, дарослыя, п'ючы гарэлку крывіліся, і нават клялі яе, але гэта апошняе выпадала неяк няшчыра, ну зусім таксама як часамі маці забаўляючыся з ім, сварылася на яго.

Хлопец выкуліў кілішак так, як яго вучылі старэйшыя. Папярхнуўшыся, зморшчыўся страшэнна, дрыжыкі ўстрасянулі ўсім целам, а ў вачах паказаліся слёзы.

«Агіда» — падумаў. Ён адчуваў сябе пакрыўджаным і бяссільным, як удараны кіем сабака, і ахвотна прытуліўся б да каторага з бацькоў, каб той яго пашкадаваў. Але бацькі разам з гасцьмі заліваліся смехам, аж за жываты хапаліся.

«Ты ж мужчына», — прыпомніўся яму голас бацькі. А яму ж хацелася, каб яго лічылі мужчынай. Ён вымушана ўсміхнуўся праз слёзы, хаця меў ахвоту голасна заплакаць.

Памаленьку прывык. Каб паказаць, што ён сапраўдны мужчына, ён намагаўся не крывіцца. З часам дайшоў і да гэтага.

— Маладзец, — хвалілі бацькі і госці, — вось хвацкі дзяцюк.

Дзесяцігадовы «дзяцюк» узрастаў у сваіх вачах. Ён дасягнуў тое, чым здзівіў дарослых.

(Працяг на стар. 3)


Вуліца ў Гайнаўцы. фота: МІКОЛА ТАРАСЕВІЧ

**Такі загаловак артыкула аб апошняй спробе забіць Гітлера. Артыкул будзе надрукаваны ў наступным нумары.**

Спроб выслаць Гітлера на той свет было некалькі. Ды ўсе скончаліся няўдачна. Нічога тады дзіўнага, што Гітлер пачаў крычаць на ўвесь свет, што яго бароніць боская рука.



# АПОШНІ ЗАМАХ НА ГІТЛЕРА

Адна некаторыя гітлераўскія генералы глядзелі на гэта больш рэальна і ў боскую апеку над Гітлерам не верылі. (Трэба адзначыць, што варожа настроеныя да ваеннай тактыкі Гітлера генералы ў канцы вайны навязалі кантакт з амерыканскай разведкай у Еўропе, якой кіраваў містэр Буль-Алян Далес).

Падрыхтаваць і правесці яшчэ адзін (апошні) замах на жыццё Гітлера ўзяў на сябе палкоўнік Штаўфэнберг. Палкоўнік карыстаўся яшчэ тады поўным даверам фюрэра. Ён меў права пераступіць тры абаронныя кругі ў галоўнай кватэры Гітлера і дайсці да яго непасрэдна*).

Апошнім часам абарона Гітлера ўзмацнілася. Да яго кватэры д пускалася толькі вельмі малая група давераных. І то большасць з іх не магла падыйсці блізка да фюрэра. Спецыяльна падрыхтаваныя СС-маны пільна сачылі за імі.

Тры абаронныя кругі былі па сутнасці трыма палосамі смерці. Лес, які акружаў «Вольфшанцэ»,**) быў вядомы тым, што ў ім не спявалі птушкі.

30 мільёнаў марак каштавала пабудова галоўнай кватэры. Грошы пайшлі не толькі на збудаванне магутных бункераў у глыбі зямлі, якія маглі вытрымаць найбольшыя бамбардыраванні. Многа грошай было выдаткавана на замаскіраванне аб'екта і на вышэй упамянутыя сродкі бяспекі, якія мелі загарантаваць Гітлеру жыццё. Але смерць набліжалася да дыктатара з хуткасцю самалёта. Прыталілася яна ў партфелі пад рукой палкоўніка Штаўфэнберга — шэфа штаба, камандуючага вайскамі рэзерва.

У наступным нумары дакладна раскажам аб апошнім замаху на Гітлера, які меў месца 20 ліпеня 1944 г. у яго галоўнай кватэры.

***) Галоўная кватэра Гітлера знаходзілася каля Кентшына ў Ольштынскім ваяводстве.**

****) Назва галоўнай кватэры Гітлера.**



Старт савецкай міжкантынентальнай ракеты. Пройдзе 37 сек. — ракета будзе на вышыні 60 км., і тады абодва бакавыя рухавікі адпадуць.

# АБ РАКЕТАХ



Французская паветраная ракета Матра М—64.



Амерыканская ракета Тар'ер ІІV.



Англійская ракета RTV — 1 кіруецца па радыё.



Амерыканская супрацьпаветраная ракета «НІКЭ».



Савецкі ракетны агнемёт «Кацюша».



Амерыканская артылерыйская ракета «Онэст Джон».



Аэробээ.

Вялікай падзеяй апошніх гадоў з'яўляецца нараджэнне міжкантынентальнай ракеты. Вынаходства міжкантынентальнай ракеты стварае дзве магчымасці: альбо будзе яна служыць чалавеку ў мірных мэтах, будзе садзейнічаць пашырэнню ведаў аб свеце, альбо станецца страшным сродкам забойства.

Міжкантынентальная ракета на працягу некалькіх мінут пралятае тысячы кіламетраў. Уявіце сабе тады, якой выгоднай можа быць такая ракета ў мірных абставінах. Яна можа стаць найхутчэйшым сродкам камунікацыі.

Ракетаў іншага роду маем даволі многа. (глядзіце малюнкі). Усе яны дагэтуль выкарыстоўваюцца толькі ў вайсковай тэхніцы.



Палёт англійскай здальнакіраванай ракеты.



Старт ракеты Ціхаправава.



Вікінг.

Новыя кнігі




На полках у кнігарнях паявілася кніжка Уладзіслава Спасоўскага «Człowiek i świat», якую выдала «Książka i wiedza».

Уладзіслаў Спасоўскі не жыве. Ён пакончыў самагубствам у час гітлераўскай акупацыі ў 1941 годзе. Таленавіты педагог і актыўны дзеяч асветы даваеннага перыяду пакінуў нам некалькі сваіх цэнных прац з педагагічна - сацыяльнай і філасафічнай галін.

Змешчаны ў кнізе «Człowiek i świat» матэрыял з'яўляецца часткай вялікай працы Спасоўскага «Wyzwolenie człowieka», напісанай ім у 1933 годзе.

Паставіўшы перад сабой мэту раз'ясніць чытачу сутнасць рэлігіі і яе адносіны да развівання чалавека, Спасоўскі на пачатку кнігі праводзіць навуковы агляд філасофіі рэлігіі.

У другім раздзеле кніжкі «Naukowe i filozoficzne podstawy poglądu na świat» аўтар даволі пераканаўча разважае аб неабходнасці авалодаць навукай, якая вызваляе чалавека ў яго развіцці ад цесных вуз ў рэлігійнага светапогляду.

У апошніх двух раздзелах гаворыцца аб шкоднасці рэлігійнага навучання і выхавання дзяцей школьнага ўзросту і аб тым, да чаго павінен імкнуцца чалавек, каб палепшыць жыццё на зямлі.

Настаўнікаў і дзеячоў асветы павінны зацікавіць два апошнія раздзелы кнігі. Гэта вельмі добрая літаратура, якая дапаможа ў змаганні за свецкасць асветы і выхавання.

М. Л.

Парады гаспадарам

# І КАРОВА ЛЮБІЦЬ СОЛЬ

Арганізм кожнай жывёлы, таксама як арганізм чалавека, патрабуе солі.

Каровы ў нас кормяцца пераважна цяжкастраўнымі кармамі: сечкай (з саломы) і сенам. Асабліва зімою нашыя каровы атрымліваюць мала сачыстай пашы. Цяжкастраўнымі пашамі карова так перагружае свой страўнік, што ён часта не мае сілы пераправіць іх і атрымліваецца агульнавядомае «ўздуванне», а тады ўжо нямала клопату.

Соль памагае ў пераправе (траўленню). Колькасць солі, якую гаспадар павінен даваць штодзенна карове, залежыць ад узросту жывёлы. Таму найлепш рабіць так. Насыпаць солі ў моцны льняны мяшочак, апусціць на хвіліну ў ваду, а потым высушыць у печы. Атрымаецца салёная грудка. Мяшочак з грудкай солі павесіць над жолабам і карова будзе лізаць соль колькі ёй трэба. У магазінах прадаюцца спецыяльныя грудкі солі да лізання для жывёлы. Соль трэба даваць таксама авечкам і свіням.

Для свіней лепш даваць проста ў карыта і не больш як адну чайную лыжачку ў дзень.

**НЕСТАР ПЕРАВОЙ**
Бельск

